Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem. ЦАНА НУМАРУ 20 ГР.

№ 7 Нядзеля 13 Траўня 1928 г. м. Вільня. Год I

# ГРАМАДЗЯНІН

ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НЕЗАЛЕЖНАЙ ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ДУМКІ

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ

Падпісная цана на 1 месяц 50 грашэй, на 2 месяцы 1 злоты. Заграніцу ўдвая даражэй. | Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Zawalna 6, m. 5. | АБВЕСТКІ ПА ЎМОВЕ

# Першы рэальны крок.

У папярэднім нумары мы адзначылі той прыемны факт, што ў настрої сярод польскіх дэмакратычных колаў паступіла значная перамена ў адносінах да беларусаў. І быццам далейшым лёгічным вынікам гэтага факту зьяўляецца заснаваньне гэтак званага краёвага пасольскага аб'яднаньня з паслоў і сэнатараў безпартыйнага блёку супрацаўніцтва з урадам ад Віленскага і Навгарадзкага ваяводзтваў і стварэньне імі паасобных рэфэратаў па ўсім справам і пытаньням нашага краю. Гэта зусім новае ў умовах польскага палітычнага жыцьця зьявішча заслугоўвае на тое, каб да яго падайці зусім аб'ектыўна.

Беларускае пытаньне, як паасобнае зьвяно ў агульным ланцугу нац.-меншасьцёвай праблемы ў межах Польскае Дзяржавы, ўвесь час цікавіла польскія палітычныя чыннікі, то больш, то менш — у залежнасьці ад складаючайся ўнутранай ці вонкавай палітычнае каньюнктуры. Былі палітычныя мамэнты, калі патрэбна было стварэньне асобнага камітэту пры міністэрстве ўнутраных справаў па пытаньням нац. меншасьцяў і нават выдаваньня асобных «языковых» законаў, якія на практыцы аказаліся не на карысьць, а на шкоду нашага народу і беларускіх школаў, як зазначыў гэта нядаўна сам тварэц гэтых законаў пан Тугут. Але не заўсёды гэныя чыннікі падыходзілі да гэтага пытаньня з шчырымі намерамі вырашыць яго к супольнаму задаваленьню абодвух зацікаўляных старон.

Да маёвага перавароту ў Варшаве упорна не дапускалі думкі, што Польшча зьяўляецца Дзяржаваю не адналітаю, а «народовосьцёваю». Польскі нацыянальна-шовіністычны эгоізм кіруючых чыннікаў не хацеў глядзець на гэтую справу вокам рэальна-дзяржаўнае палітыкі, якая вымагае лічыцца з лёкальнымі інтарэсамі паасобных нацыянальных меншасьцяў, ахапляючых кругом Польскую тэрыторыю ўдоўжкі граніцы варожа настроеных да Польшчы суседніх дзяржаваў з Усходу і Захаду. Урад Маршалка Пілсудзкага бязумоўна зышоў з гэтага шляху і ёсьць шмат доказаў таго, што шчыра імкнецца да вырашэньня нарадавасьцёвае праблемы ў межах Польскае Дзяржавы. Толькі папярэдні Сойм і Сэнат пры сваём складзе, не зусім адказваючым запраўднаму настрою страны, стаяў увесь час папярок гэтага шляху. І калі пяперашняму ўраду удалося зрабіць хоць што для задаваленьня самых мінімальных патрэбаў нацыянальных меншасьцяў, дык гэта было дасягнута паміма згоды і волі большасьці папярэдніх законадаўчых палатаў. Зусім зразумела,

што пры гэткіх умовах трудна было вымагаць ад ураду яшчэ большага.

Новыя выбары, даўшыя выразную перамогу прыхільнікам Ураду Маршалка Пілсудзкага, значна разьвязваюць рукі ўраду і аблягчаюць яго задачу. Польская Эндэцыя, Пяст і Хядэцыя, не прызнаючыя нацыянальных меншасьцяў у Польшчы, у новым Сойме і Сэнаце пазбавіліся ўсякага ўплыву. У заканадаўчых палатах вытварылася зусім прыхільная палітычная атмасфэра для вырашэньня нарадавосьцёвае праблемы ў Польшчы. Дык стварэньне паасобных краёвых аб'яднаньняў з паслоў і сэнатараў у лёне блёку супрацаўніцтва з урадам, як Віленскі і Новагарадзкі, маючых спэцыяльнаю мэтаю служыць пасрэднікамі між законадаўчымі і выканаўчымі чыннікамі, зьяўляецца толькі лёгічным вынікам перамогі прыхільнікаў пяперашняга ўраду на выбарах. Гэтае ініцыятывы з боку „едынкі" вымагала рэалізацыя тых лёзунгаў, дзякуючы якім яна здабыла сабе ў часе выбараў шмат беларускіх галасоў. Бязумоўна гэткія краёвыя групы створацца і ў Усходняй Галіцыі, на Валыні, В. Шлёнску і на Паморы, бо ўсе гэтыя часткі тэрыторыі, як і наш край, маюць свае асобныя ўмовы культуральна-палітычнага і гаспадарчага жыцьця.

Тутака мы ня хочам забягаць далёка ўперад і прадзказываць надзвычайныя карысьці і раптоўныя перамены ў жыцьці нашага краю. Паміма добрай волі з боку ініцыятараў „едынкі", шмат яшчэ залежыць ад таго, як да гэтага ўстасуюцца паслы і сэнатары запікаўляных нац. меншасьцяў і наагул палітычныя кіраўнікі. Зусім зразумела і трудна дапусьціць, каб, напрыклад, нашыя паслы сталі ў супярэчнасьць да гэтай справы з асабістых ці якіх іншых прынцыповых паглядаў. Ня нам указваць ім тую ці іншую пазыцыю ў адносінах гэтых замераў законадаўчага блёку супрацоўніцтва з урадам. Пачуцьце суменнага служэньня свайму народу і адказнасьці перад ім падкажа яго выбранцам, якую заняць пазыцыю. У кожным разе было-бы зусім незразумелым, калі-б нашыя паслы ці іншых меншасьцяў аднясьліся апазыцыйна да гэтых пачынаньняў блёку супрацаўніцтва з урадам толькі дзеля таго, можа быць, што ён не ахапляе сваей праграмаю таго максымуму, які накрэсьляны ў нацыянальных праграмах паасобных меншасьцяў.

З свайго боку мы толькі канстатуем, што зразуменьне патрэбы вырашэньня беларускага пытаньня сярод польскага грамадзянства ўжо становіцца на рэальны грунт і пачынае паволі прыймаць жыцьцёвыя формы.

# Няўдалае тлумачэньне.

Наш артыкул у папярэднім нумары аб „Праваслаўным духавенстве ў нашым Краі" у зьвязку з сьвяткаваньнем 25 угодкаў юбілею Віленскага архіяпіскапа Феадосія, як і належыла чакаць, ня застаўся бяз водгуку. Ласьне ў новапаўсталай расейскай газ. „Виленски День" (№ 3) зьявіўся палемічны артыкул, падпісаны п. А. Спасскім, пад загалоўкам „Праваслаўная Царква і Беларусы", у якім аўтар дае адказ на наш артыкул, які быццам „заставіў па сабе цяжкі асадак", папяраджаючы, што п. Бохан і Бэртгольд адкажуць яшчэ асабіста".

З свайго боку агаварываемся, што калі пісалі гэты артыкул, дык зусім ня мелі на ўвазе распачынаць у прасе нейкую палеміку з п. Бохэнам, ці з п. Бэртгольдам, якім знойдзецца чым адказаць. Нас толькі дзівіць тое, што п. А. Сп., згаджаючыся зусім з тым, што ёсьць ненармальнасьці ў нашай праваслаўнай Царкве і асабліва ў Віленскай Праваслаўнай Кансысторыі, чамусь-та ў нашым зусім спакойным указаньні на гэтыя ненармальнасьці вынюхаў „смрадны запах жандармско-поліцэйскаго доноса".

Гэта адзін з старых спосабаў палемікі, каб ухіліцца ў бок ад тэмы і зваліць адказнасьць з хворае галавы на здаровую.

Пан А. Сп. піша, што пытаньбе аб „Беларусізацыі Праваслаўнай Царквы патрабуе самага паважнага падыходу да сябе", чаго, быццам, няма ў нашым артыкуле. Калі-б п. А. Сп. чытаў Віленскія беларускія газэты за апошнія гады, дык ведаў-бы, што гэтае пытаньне абгаварывалася ў беларускай прасе не раз і ўсебакова. Дык у заданьне нашага артыкулу зусім не ўваходзіла ўсебаковае абгаварываньне гэтае праблемы, да чаго яшчэ можа ня раз зьвернемся. Мы толькі ўказалі на тое, што ў Віленскай Праваслаўнай Кансысторыі пануе дух, не адпавядаючы духу сучаснага палітычнага мамэнту і што наша праваслаўнае духавенства мала лічыцца з тым настроем праваслаўных нашага Краю, які выразна ўяўніўся ў

часе апошніх выбараў да Сойму і Сэнату. Ад гэтага мы не адступім і не дадзім сябе зьбіць ніякімі абвінавачаньнямі ў „шавінізме“, якога трэба шукаць у супраціўным баку.

Прызнаўшы зусім ненармальным гэткае зьявішча, як „**возглавленіе юбилейнаго комитета от мірян служащим консисторіи**“, п. А. Сп. піша, што „сначала надо организовать приход, возродить прыходскую жизнедеятельность, приблизить пастыря к пасомым, укрепить в сознаніи праваслаўноверующаго народа основы **соборности**, а затем уже говорить о белоруссизаціи Церкви“...

Хто пра Ярому, а хто пра Хаму. Мы кажам аб патрэбе беларусізацыі Царквы, а п. А. Сп. гавора аб саборнасьці, быццам бяз яе ня можа быць беларусізацыі, ці адно і другое ня можа праводзіцца адначасова.

Гэткім чынам п. А. Сп, так і ня даў выразнага адказу на пытаньне, ці лічыць ён патрэбным беларусізацыю праваслаўнае Царквы ў нашым Краі. Абвінавáціў нас і ў „даносе“, і ў „шовінізме“, толькі за тое, што мы паварушылі гэзае балючае і палючае пытаньне, каб самому ухіліцца ад простага адказу на яго, чаго мы дарма шукалі ў гэтым няўдалым тлумачэньні.

Дык жыцьцё нам дасьць на гэта адказ.

# Аб чым пішуць беларускія газэты.

„*Сялянская Ніва*“ (№ 28) у перадавіцы „Школьная палітыка“, сумуючы стан гэтае палітыкі, піша:

„Як бачым, перш-на-перш адчынена вельмі мала школ, апрача таго, школы гэтыя атрымалі толькі беларускі назоў, бо не дасталі беларускіх вучыцялей.

Тымчасам у польскіх школах астаюцца беларускія вучыцялі, а ў беларускія школы вызначаюцца польскія вучыцялёў.

Так выглядае справа з беларускім пачаткавым школьніцтвам. Калі глянем на беларускую сярэднюю асьвету, дык убачым, што істнуючыя 4 беларускія прыватныя гімназіі не атрымліваюць урадавых субсыдыяў. У дзяржаўным бюджэце на 1928-29 год няма ніводнае пазыцыі аасыгновак на дапамогу беларускім гімназіям, непрадбачаны і расходы на беларускую вучыцельскую сэмінарыю і іншыя расходы, зьвязаныя з разьвіцьцём беларускага школьніцтва. Матурыстыя беларускіх гімназіяў дагэтуль ня маюць правоў, унівэрсытэты ў краю для іх зачынены, а калі хочаць вучыцца, дык мусяць эміграваць за граніцу“.

Аб гэтым ненармальным стане рэчаў пісалі і мы ў свой час (гл. „Грамадзянін“ № 3) і спадзяёмся, што новастворапы „jedynkaj“ Краёвы Беларускі Асьвятовы Рэфэрат у супольнай працы з нашымі паслямі зьверне ўвагу на гэтае балючае пытаньне і з новага вучэбнага году спыняцца ўсе ненармальнасьці, і справа беларускай асьветы пойдзе па шляху законных жаданьняў беларускага народу.

„*Голас Працы*“ ў № 7, абгаварваючы ў хроніцы „Непаразуменьне ў Беларускай Навагрудзкай Гімназыі“ паміж дырэкцыяй і вучнямі, якое паграждае звальненьнем каля 40 вучняў, піша:

„...Спадзяёмся, што да такога трагічнага канца ня дойдзе і што ў кіраўніцтва гімназіі знойдзецца яшчэ такту для ліквідацыі мапазначучага інцыдэнту мірным шляхам і што яно захавае патрэбную для сябе пашану сярод вучняў, а можа прыдбае зноў і іх любоў“.

Аб такой паважнай справе, як звальненьне 40 вучняў, дый так нешта „дэлікатна“ і „нежна“!

Штось незразумелае?!

„*Biełaruskaja Krynica*“ ў № 28 у сваёй перадавіцы, сапастаўляючы Касьцёл, Царкву і Мэтадызм, між іншым кажа:

„...Касьцёл і Царква — Каталіцтва і Праваслаўе — не гаворачы аб іх падставах ідэолёгічных і дагматычных — гэта гістарычныя веры Беларусоў. Гэтыя веры ў кроў увайшлі нашага народу, яны яго ўзгадавалі духова.. Яны апора нашай народнасьці, яны жарло нашых імкненьняў, нашых ідэалаў. Яны — найвышэйшая вартасьць народу..

Сэкта мэтадыстаў — гэта нешта новае і чужое нам. Мэтадызм не мае ў сабе сілы, каб быць карысным нашаму народу...

Наступствы мэтадызму—загуба ўсякай веры, аслабленьне маральных сіл і поўная яго залежнасьць ад кожнай улады сьвецкай...“

Зусім згаджаемся з паглядам органа беларускіх хадэкаў. Нажаль зусім іншых пагляда́ў на праваслаўную Царкву і праваслаўе польскія эндэкі і хадэкі, якія адмаўляюць ў раўнапраўі праваслаўнае Царквы з каталіцкаю ў межах Польскае Дзяржавы. Але, надзеімся, час пераканае і іх.

У артыкуле „У гару сэрца і духа“,—голас нашае эміграцыі з Чэхаславаччыны,—успамінаючы нядаўнія лаянкі і грызьню ў беларускіх газэтах, піша:

„...Вестка аб разьбіцьці адзінага беларускага фронта на партыі была прычынай вялікага суму беларускае эміграцыі... І беларуская моладзь загаварыла!

Беларускае студэнства на эміграцыі, як адзін чалавек станула проці адужылага партыйніцтва, беларускага студэнства ў Заходняй Беларусі стала проці партыйніцтва, беларускае студэнства Радавай Беларусі з закнэбляванымі праз Маскву вуснамі здалела так-жа моўчкі прылучыцца да нацыянальнае беларускае студэнскае арміі.. “

Здаровыя думкі нашае студэнскае моладзі, якраз адпавядаюць ужо насьпелай патрэбе аздараўленьня душнага нашага паветра, у якім мы ўсе амаль не задыхнуліся падчас выбараў у Сойм. Партыйніцтва, калі яно мае ў залажэньні нацыянальную ідэю і ня выліваецца ў асабістых лаянках павадыроў, ужо ня так шкодна, ак гэта здаецца студэнству.

**Ня зьнішчайце газэты! Прачытаўшы перадайце суседу!**

# Палітычная хроніка.

## ПОЛЬШЧА.

### Замах на сябру савецкага пасольства ў Варшаве.

У пятніцу 4 траўня на праяжджаўшага ў аўтамабілі па Маршалкоўскай вуліцы у Варшаве сябру савецкага пасольства ў Польшчы Лізарава малады расіянін выстраліў два разы з рэвальвэру, лёгка раніўшы Лізарава ў руку. Вінаватчык замаху арыштаваны. Ён аказаўся слухач школы навук палітычных у Варшаве Грыгор Войцехоўскі расейскі эмігрант, прыбыўшы да Польшчы без дазволу і пашпарту. Пасьля арышту Г Войцехоўскі заявіў, што учыніў гэта з асабістай палітычнай пабудкі і што да ніякай палітычнай арганізацыі не належыў. Бальшавікі замардавалі яго бацьку палкоўніка і усё сямейства. Ад гэтай пары ён рашыў адамсьціць бальшавікам. З пачатку хацеў замардаваць савецкага пасла ў Варшаве Багамолава. Але зразумеўшы, што гэта магло нацягнуць палітычныя скуткі для Польшчы, рашыў застрэліць гандлёвага саветніка савецкага пасольства. Узьвязку з гэтым зроблена шэраг вобыскаў і арыштаў сярод расейскай колёніі ў Варшаве.

### Савецкія ноты Польшчы.

У зьвязку з замахам на сябру савецкага пасольства ў Варшаве савецкі пасол Багамолаў уручыў у нядзелю 6 траўня польскаму міністру заграпічных спраў ноту, у якой між іншым кажа, што Г. Войцехоўскі прынімаў удзел у арганізацыі замаху Кавэрдаю і што савецкае пасольства жадала высяленьня яго разам з іншымі асобамі з Польшчы. Аднак гэтае жаданьне ня было выканана. У канцы выражае пратэст проці „пасыўнасьці польскіх уладаў у адносінах тэроры стычных замахаў на жыцьцё прадстаўнікоў сав. ураду расейскіх эміграцыйных арганізацыяў на тэрыторыі Польшчы."

Другую ноту Чычэрын уручыў польскаму паслу у Маскве Патэку· У гэтай ноце Чычэрын жадае ад польскаг ураду прыняцьця патрэбных сродкаў з мэтаю энэргічнага стлуменьня тэрорыстычнае дзеяльнасьці белых эмігрантаў у Польшчы і гарантаваньня асабістае небясьпекі савецкіх прадстаўнікоў,

### Польска-літоўскія перагаворы.

6-га траўня ў Коўну прыбыла польская дэлегацыя пад кіраўніцтвам пачальніка ўсходняга аддзелу міністэрства заграпічных справаў п. Галуўкі 8 траўня распачалася праца польска-літоўскае камісіі.

## ЗА ГРАНІЦАЮ.

### Канфэрэнцыя Патэка з Чычэрыным.

7-га траўня польскі пасол у Маскве меў дзьве канфэрэнцыі ў камісарыяце заграпічных справаў, адну з Чычэрыным і другую з сябрам калегіі Стамапякавым. Тэмаю канфэрэнцыі была сытуацыя, вытвораная замахам Вайцехоўскага на Лізарава.

### Афганскі кароль у Радавай Расеі.

Афганскі кароль Амманулах, пасьля свае́й візыты ў Варшаве, выехаў у Маскву. Дзеля таго, што бальшавікі зьяўляюцца ворагамі мапархаў, гэты прыезд каранаванай асобы нарабіў ім шмат клапотаў. Аднак-жа ў віду таго, што маскоўскія дыктатары стараюцца вырваць Афганістан з пад уплываў Англіі і падчыніць яго сабе, у Чырвонай Расеі прыгатаваны для афганскага караля вельмі раскошны прыём. Да станцыі Столбцы быў высланы в Масквы спэцыяльны цягнік. Караля спаткаў і праводзіў да самае Масквы заступнік Чычэрына Літвінаў. У Менску караля вітаў урад Савецкае Беларусі. У Маскве на станцыю прыбыў для спатканьня і прывітаньня каралеўскае пары савецкі ўрад у поўным складзе на чале з старшынёй Цэнтральнага Выканаўчага К-ту Калініным і дыплёматычны корпус. Пасьля прыняцьця рапарту ад ганаровае роты і параду, каралеўская пара была адвезена да спэцыяльна прыгатаванага асабняку, пры якім выстаўляна ганаровая стража. На другі дзень, у чэсьць караля, у Вялікім тэатры было наладжана ўрачыстае прадстаўленьне, на якім былі прысутнымі савецкі ўрад і дыплёматычны корпус. Публіка горача вітала воплескамі каралеўскую пару. Кароль Амманулах пасьля агледзін Масквы паедзе ў Петраград, адтуль у Крым, па Чорнаму мору на Каўказ і праз Турцыю і Пэрсыю вернецца дамоў.

### Падзеі ў Кітаі.

Падзеі ў Кітаі ізноў прынялі паважны характар. Палудпёвая кітайская чырвоная армія, пасьля раду перамогаў над паўночнаю арміяй Чанг-Тса-Ліна, падыйшла да самага Пэк'ну. Пры гэтым яна напала ў некалькіх мейсцах на японскія гарнізоны. Дзеля таго, што японскія атрады ў гэтым раёне аказаліся слабымі, японскі ўрад выслаў пасілкі з Манчжурыі, Порт-Артура і Японіі. Апрача гэтага японскі флёт скіраваны да Шанхаю. Ня выключаецца магчымасьць аб'яўленьня Японіяй Палудпёваму Кітаю вайны, якая фактычна ўжо распачалася. Амэрыканскі ўрад гэтак сама выслаў да Кітаю 11000 марской пяхоты для ахраны амэрыканскіх інтарэсаў. На Далёкім Усходзе цяпер знаходзіцца 61 амэрыканскае судно.

# Тутэйшая хроніка.

— **Краёвы рэфэрат беларускай асьветы.** „Jedynka“ ад слоў пераходзіць да працы, і стаўшы на прынцыпу, што ня ўсе законы Дзяржавы павінны аднолькава прыстасоўвацца да ўсяго абшару Польшчы, што ваяводствы Віленскае і Наваградзкае, як маючыя у насельнідзтве значную частку беларускага жыхарства а значыць і свае нацыянальныя патрэбы і каб бліжэй стаць да гэтых патрэбаў стварыла з паслоў і сэнатараў з Віленшчыны і Наваградчыны адзельныя рэфэраты па ўсім пытаньням і патрэбам нашага Краю.

Усе рэфэраты маюць агульна дзяржаўную назову, апрача рэфэрата асьвятовага, які названы „Рэфэратам беларускай асьветы“. На чало гэнаго рэфэрату застаўся выбраны пасол Акуліч—дырэктар дэпартамэнту рэлігіі у Варшаве. Паходзіць ён з Нашага Краю і у весь час працаваў тутака ў Вільні ў справах грамадзкіх і краёвых, а значыць добра азнаёмляны з тутэйшымі варункамі жыцьця, патрэбамі і беларускімі справамі. Належыць да польскай дэмакрацыі і перад маёвым пераваротам быў рэдактарам „Kurjera Wileńskiego“. Пасьля перавароту праз Урад Маршалка Пілсудскага быў выклікавы на службу ў Варшаву да Міністэрства Асьветы і Рэлігіяў...

Апрача пасла Акуліча ў гэты рэфэрат увайшлі, як „koreferaty“ — Пасол д-р Брекоўскі—Старшыня Клюбу Працы ў Вільні і пасол Макрэцкі беларус з Наваградчыны. Кіраўніком „бюра“ злучаных рэфэратаў Віленшчыны і Наваградчыны вызначаны п. Сьвідэрскі — сябра Цэнтральнага Камітэту Клюбу Працы, асоба так сама добра азнаёмленая з сучаснымі патрэбамі Нашага Краю і вельмі добра ўладаючая беларускай мовай.

Між іншымі заданьнямі, да якіх імкнецца „jedynka“ — гэта злучыць уладу законадаўчую (Сойм і Сэнат) беспасрэдня з уладай выканаўчай (Ваяводзствы) і ў гэтым кірунку ўжо наладжаны кантакт.

Гэтае заданьне апрача таго, што дасьць адразу магчымасьць пературэньня закону ў чыны, але яшчэ, як і „парсзумеўчае“ двох Уладаў, дасьць і хуткі і патрэбны напрамак прыстасаваньня закону да жыцьця.

Гэта можна толькі вітаць, але нажаль ня бачым у рэфэратах аніводнага з нашых паслоў. Трудна думаць, каб сучаснасьць не вымагала бы іхняга ўдзелу, а рэформы і развой Краю прайшлі бы бяз іх. Гэтак сама спадзяёмся, што і нашыя паслы ня стануць у апазыцыю да гэтых пачынаньняў краёвай „jedynki“ і яе дбаньня аб народзе і дабрабыце краю і прыдуць да паразуменьня і згоды на агульную карысьць.

Магчыма, што жыцьцё запатрабуе ўцягнуць у гэтыя справы і іншых беларускіх дзеячаў, нават ня паслоў.

— **З Жыцьця „Прасьветы“.** Тодар Верпікоўскі сябра Цэнтр. Рады „Прасьветы“ ад 4 траўня аб'езджаў гурткі „Прасьветы“ Маладэчанскага і Вялейскага павету. Залагадзіўшы бягучыя справы і патрэбы ў гуртках Маладэчанскім, Лебедзеўскім, Аляхновічаўскім, Ушацкім, Івавцэвічскім. Путнікаўскім, Корсаковіцкім, Вялейскім, Бароўскім, Нарачскім, Папоўчыцкім і іншых.

Між іншым ён парушыў справы вандроўнага беларускага тэатру, які ў хуткім часе павінен выехаць у аб'езд по паветам Маладэчанскаму і Вялейскаму.

Затым наладзіў арганізацыю спэктакляў у Маладэчні і Вялейцы, якія адбудуцца 24 траўня ў Маладэчні і ў гэтым-жа часе і ў Вялейцы.

У сваей інспэкцыі, апрача спраў культурна-асьветных, п. Т. Верпікоўскі зьвярнуў увагу сяброў „Прасьветы“ яшчэ на тое, каб яны, дзеля іхняе-ж карысьці, як мага запісваліся ў існуючыя грамадзка- гаспадарчыя арганізацыі, як „Кулкі рольнічыя“, каапэратывы і інш.

Нарэшце абгаварвалася справа аб з,ездзе сяброў „Прасьветы“ дзеля выбараў новае Цэнтральнае Рады, бо сучасная Рада паводле Статуту ўжо больш як год страціла свае паўнамоцтвы і падляжыць перавыбару.

Сярод сяброў „Прасьветы“ адчуваецца патрэба аздараўленьня гэтае арганізацыі, а дзеля гэтага і перавыбары яе Цэнтральнае Рады ёсьць пажаданымі і неабходнымі.

Крокі ў гэтым кірунку ўжо робяцца і патрэбныя перавыбары і рэарганізацыя „Прасьветы“,якіх вымагае сучасны мамэнт, як спадзяёмся, будзе ў хуткім часе зроблявы.

Сябра ц. Рады „Прасьветы“ п. Тодар Верпікоўскі ў справах „Прасьветы“ выехаў 11-га траўня ў Новаградак.

— **Калі адбудуцца выбары у Ваяводскія Рады.** Віленскі Ваявода паведаміў кіраўнікоў паветовых аддзелаў, што выбары сяброў Ваяводскай Рады павінны быць ужо скончаны 1 чэрвеня б. г.

— **Выдаленьне 40 вучняў з Наваградскае гімназіі.** 1 траўня вучні беларускай гімназіі ў Наваградку зьвярнуліся да дырэкцыі з просьбай вызваліць іх у гэты дзень на прагулку. Калі дырэкцыя адмовіла гэтай просьбе, вучні грамадой не пайшлі на заняткі. Ў рэзультаце Пэдагагічная Рада пастанавіла выдаліць з гімназіі 40 вучняў.

Не ўваходзячы ў разьбіраньне прычынаў, выклікаўшых гэтак прыкрае здарэньне, застаецца толькі пажадаць вучням, каб займаліся больш навукай, як палітыкай а дырэкцыі, каб такімі жорсткімі мерамі не пазбаўляла асьветы беларускае моладзі, а прынамся перапрабавала пе-

рад гатым больш лагодныя меры для падтрыманьня дысцыпліны у гімназіі. Ці запраўды ня было іншых спосабаў зьліквідаваць канфлікт, як спосаб, якім можна было карыстацца ў старыя часы рэжыму расейскае школы, але ня ў сучаснасьці, калі трэба прыняць заўсёды пад увагу і тую нездаровую атмасфэру, у якой жыве наша моладзь.

**— З працесу „Грамады“.** Справа б. паслоў Тарашкевіча і іншых ужо дабегая канцу і ў гэтым тыдні можа нават закончыцца. Мовы 2-х пракурораў ужо адбыліся і распачаліся прамовы абаронцаў, якіх ўсяго ёсьць 17, а дзеля гэтага трэба чакаць прыгавара ў наступным тыдні.

**— Арышт б. пасла Сабалеўскага.** Па загаду сьледчага судзьдзі для справаў асаблівае вагі пры Акружным Судзе ў Вільні, арыштаваны б. пасол Юры Сабалеўскі. Арышт адбыўся 8-га траўня на станцыі Стаўбцы ў хвілі, калі Сабалеўскі купляў білет у Горадню. Арыштаваны перавезены ў Вільню ў Лукішскі вастрог.

**— Хвароба палітычнага вязьня Мэнке.** Студэнт пражскага Унівэрсытэта, кіраўнік радыкальнае беларускае газэты ў свой час заарыштаваны па абвінавачаньню ў камунізме, захварэў псыхічна ў Лукішскім вастрогу і астаўся пераведзяны ў шпіталь сьв. Якуба ў Вільні.

**— Хор Украінскі.** 6 і 7 траўня ў Вільні адбыліся 2 канцэрты прыезднага вядомага Украінскага хору пад рэгэнствам Дзьмітрыя Котка. Хор складаўся з 35 асобаў — усе ў нацыянальных вопратках.

**— Новыя выдавецтвы.** Таварыства „Пагоня“ прыступіла да выданьня навейшых і найвялікшых твораў Якуба Коласа — Паэмы „Сымон Музыка і „Новая Зямля“.

**— Адчыт.** У Інстытуце Гаспадаркі і Культуры адбыўся 5 траўня адчыт пасла Стэповіча на тэму „Беларусь у сучаснай польскай літэратуры“.

**— № 5 гумарыстычнае часопісі „Маланка.“** 30 красавіка выйшаў у сьвет новы нумар(5) беларускай гумарыстычнай часопісі „Маланка.“ Знаходзім у ім пекны верш Янкі Купалы — „Паніч і Марыся“ і як заўсёды — дасьціпныя „Сьвецкія навіны“ і „Народны гумар.“ Ілюстраваны слабей як папярэдні нумар. У канцы рэдакцыя прыносіць ня зусім прыемную навіну чытачам аб „гэнаральнай чыстцы“ і спыненьні высылкі тым, хто ня прышле падпіснай платы.

**— Канфіската.** Распараджэньнем Віленскага Староства за антыдзяржаўныя артыкулы застаўся сканфіскаваны „Бюлетэнь Беларускіх эсэраў“ выходзячы у Празе Чэскай.

**— Канфіскацыя „Голасу Працы“.** Па загаду Камісара Ураду на м. Вільню сканфіскаваны № 8 часопісі беларускіх радыкалаў „Голас Працы“. Канфіскацыя зроблена дзеля зьмешчаньня ўступнага артыкулу пад назвай „Грамада“.

**— Сэнатар Рагуля звольнены з вастрогу.** Вызначаная на дзень 8 траўня ў Апэляцыйным Судзе справа сэнатара Рагулі засталася спыненай на неаграніченый час, а дзеля гэтага сэн. Рагуля застаўся звольненым і як

# „Студэнская Думка“.

**Часопісь беларускага студэнства ў Вільні, № 2 (9) за Сакавік—Красавік 1928 г. Год выдавецтва IV-ты. 32 старонкі in octo.**

(*Крытычны агляд*).

У папярэднім нумары „Грамадзяніна“ быў разгледжаны № 1-шы „Студэнскае Думкі“ за Студзень—Люты сёлетняга году, выданы пад рэдакцыяй Я. Шутовіча. Цяпераka пяройдзем па чарзе да № 2-га „Думкі“, выйшаўшага ўжо пад новай рэдакцыяй І. Гагалінскага, дзякуючы арышту, у зьвязку з выбарамі, папярэдняга яе кіраўніка.

Калі ў № 1-шым „Студ. Думкі“, мы бачылі ў складзе зьместу падаўляючую перавагу „пражакоў“ над „віленцамі“ — зьявішча — *nota bene* — зусім зразумелае ў неналаджаным яшчэ рэдакцыйным апараце, — у № 2 „Студ. Думкі“ можам са здаваленьнем канстатаваць поўную перамогу віленскіх аўтараў.

Адчыняе нумар адумысловы верш А. Б. пад наз. „*25.III.18. — 25.III.28.*“, прысьвячаны 10-тым угодкам абвешчаньня незалежнасьці Беларусі ў Менску. Прыгожы гэты верш, складаючыся з некалькіх паасобных частак, з якіх кожная пісана іншым разьмерам,—паўстаў, відаць, пад уплывам творчасьці Янкі Купалы, асабліва—ягонага, прысьвячанага Беларусі, цыклу п. т. „Безназоўнае“ ў зборніку пад гэткім-жа назовам.

Канчаецца гэты ўступны верш гэткімі, поўнымі размаху і патрыятычнага пачуцьця строфамі:

„. . . Хутчэй да працы, каб кіпела.
„Пагоня нам пакажа шлях.
„Яшчэ ўзаўецца горда-сьмела
„Наш бел-чырвона-белы сьцяг!“

Гэткі-ж як у ўступным вершы „цыфровы“ назоў „*25.III.1918.—25.III.1928.*“ бачым мы і ў чарговым артыкуле Ст. Ст. гэтак-жа прысьвячаны 10-тым угодкам Незалежнасьці. Ня гледзячы на пэўныя гістарычныя анахронізмы і няяснасьці ў першай частцы артыкулу, пісаны ён —агулам—сакавіта, вобразна і бойка і пакідае па сабе сымпатычнае ўражаньне ў чытача, дзякуючы сьвежасьці і шчырасьці пачуцьцёў ягонага аўтара.

Далей маем абшырны артыкул п. н. „*Узгадаваньне характару*“—найбольш цэнную працу ў гэтым нумары з выразна-навучным характа-

выбраны ў Сэнат, прыступіць да выконваньня сваіх абавязкаў.

— **Справа пачатковых беларускіх школаў.** У Соймавай Бюджэтнай Камісіі, калі разглядаўся бюджэт асьветы, міністар п. Дабруцкі даючы выясьненьні, між іншым сказаў, што чынюцца ўсе высілкі, каб як найхутчэй даць магчымасьць прыступіць да асьветы і дзецям іншай народнасьці, і што тутака ідзе, каб пагадзіць інтарэсы Дзяржавы з інтарэсамі Народу.

Памагай Божа і міністру Асьветы і нашым паслом!

— **Спэктакль у Беларускай Віленскай Гімназіі.** У суботу 13 траўня ў Віл, Бел. Гімназіі адбыўся спэктакль спартыўнае сэкцыі. Гулялі „Чорт і бабу"—Ф. Аляхновіча. Рэжысаваў артыста — мастак п. Замэцкі.

— **Новая сацыялістычная часопісь ў Празе.** Нядаўна выйшаў ў Празе - Чэскай № 1 расейскай часопісі пад назвай „ Вестник Социалистической Лиги Новаго Востока". Між сацыялістамі іншых нацыяў бяруць удзел ў гэтай часопісі і нашыя беларусы — Т. Грыб і В. Захарка. Першы даў артыкул „В.-Западной Беларусі", другі - аб П. А. Крычэвскім.

— **Новая Расейская часопісь ў Вільні.** Заместа „Утра" — зачыніўшагася з прычыны педахопу грашовых сродкаў, пачала выходзіць новая газэта „Віленскі Дзень". Выдаўцам нейкі Сьвіціч.

# Карэспандэнцыі.

## Спэктакль.

(М. Лебедзева, Маладэчанскага п.).

У дзень сьвяткаваньня Канстытуцыі 3-га мая ў м. Лебедзева мясцовым аддзелам Т-ва „Прасьветы" быў пастаўлены беларускі спэктакль. Была пастаўлена: „У кавалёвай хаце" і Конскі партрэт"—жарт Родзевіча.

Каб даць магчымасьць пабываць у гэты дзэнь на прадстаўленьні як можна большай лічбе жадаючых, уваход на спэктакль быў бязплатны.

Зацікаўленасьць прадстаўленьнем была настолькі вялікая, што прасторная заля стражы агнёвай, дзе адбывалася прадстаўленьне, была біткам набіта. Былі пазайманыя ня толькі ўсе лаўкі, але не хапала мейсца і ў праходах. Шмат хлапцоў паўзбіралася на бэлькі і драбіны, абы толькі ўбачыць прадстаўленьне.

Артысты-аматары адыгралі свае ролі настолькі добра, што публічнасьць была вельмі зацікаўлена ігрой і кожны раз выяўляла свае задаваленьне дружнымі і доўгімі воплескамі.

Па прадстаўленьні пяяў хор з мясцовых дзяўчат і хлапцоў. Паміж іншым хор адпяяў: „Jeszcze Polska nie zginęła" і „Witaj maj". Трэба сказаць, што такі хор, як у Лебедзеве, на правінцыі можна спаткаць рэдка. Шкода толькі,

---

рам. Аўтар яе Ст. Грынкевіч, зьяўляецца ня толькі талентным беларускім пісьменьнікам, але і адным з найбольш абяцаючых маладых беларускіх вучоных, цікавячымся спэцыяльна пытаньнямі палітычна-грамадзкімі, нацыянальна-гістарычнымі, філязафічна-рэлігійнымі ну і, зразумела-ж, краінай літэратурнай творчасьці. Ня кажучы тут ужо аб ягоных папулярна-навучных артыкулах і брашурах (аб прыродзе, аб тэатры і г. д.), на асаблівую ўвагу і пашану заслугоўвае сталая, сыстэматычная праца Ст. Грынкевіча *над дасканаленьнем і ўзбагачваньнем беларускае літэратурнае мовы*, якую ён праводзіць прадусім у сваей уласнай творчасьці. Дасканальныя рэзультаты гэтае рупнасьці аб часьціне беларускае мовы можна ўжо было прыкмеціць у навуковай тэрмінолёгіі, нядаўна выйшаўшага ў Вільні лацінкай палітычнае брашуры „Народ"; гэтае-ж самае зьвішча, асабліва ў сапастаўленьні з неахайнасьцяй большасьці віленскай беларускай прэсы ў гэтай краіне, прыемна задзіўляе чытача і ў даным выпадку, калі маем да чыненьня з артыкулам „Узгадаваньне хахактару", дзе аўтар ўсебакова высьветляе гэтае важнае для Беларусаў пытаньне.

Чарговая навэла Ст. Ст. п. н. „*Над Нёмнам*", ня гледзячы на прыгожасьць некаторых апісаў, ёсьць наагул даволі слабай гэтак у сэнсе фактуры, як і самой фабулы, „спробай пяра" пачынаючага аўтара і як гэткая, была-б больш на мейсцы ў часопісі гімназіяльнай.

Сярод даволі багатага аддзелу дробных поэзыяў маладых віленскіх песьняроў выдзяляюцца гэткія: імпрэсыя А. Бартуля—„*Непагода*", у якой чуваць уплывы М. Багдановіча; эротык „*Вясна*" У. Шырына; поўнае размаху і пачуцьця „*Мы там*..." М. Тулейкі; зважнае „*Сьмялей!*" М. Васілька; урэшце „*Песьня Вяльлі*" Г. Вялецкага, якія, ня гледзячы на пэўныя хібы і заганы, крыюць аднак у сабе задаткі шырокіх магчымасьцяў іх аўтара на полі літэратурным у будучыні.

Вельмі цэнным і карысным для беларускае культуры трэ' прызнаць аддзел „*З народнай творчасьці*", прысьвячаны публікаваньню пасобных твораў беларускага фольклёру,запісаных праз супрацоўнікаў часопісі на вёсцы, бароночы гэткім чынам вартастныя няраз творы перад поўным забыцьцям.

Цікаўны артыкул „Кнігара" п. н. „*Труды Белорускаго Государственнаго Университета*" ў Менску, абапёрты на адумыснай публікацыі гэ-

што гэты беларускі хор на гэты раз аддаў перавагу песьням украінскім і расейскім. Трэба было-б удзяліць больш мейсца сваей роднай песьні—беларускай.

Вялікім заганам таксама ў гэтым апошнім прадстаўленьні было і тое, што палякі не палічылі патрэбным узяць у ім удзелу, каб супольным выступленьнем беларускага і польскага слова на сцэне, у гістарычны дзень 3-га мая, паказаць у свой чарод сваю дружбу і пашану да беларускага народу і яго культуры.

*Тутэйшы.*

## З працы і жыцьця аддзелу Беларускага Т-ва „Прасьвета".

(Румянцава, Маладэчанскага пав.).

Аддзел паўстаў 1.І. 1928 г. Пры арганізацыі аддзелу ўступіла ў сябры Т-ва 21 асоба. За гэты кароткі час саарганізаваліся драматычная і літэратурная сэкцыі. Драматычная сэкцыя наладзіла за свaё істнаваньне 5 спэктакляў, разыгрываючы рад твораў. І цяпер 13.V. 1928 г. ладзіць спэктакль, будзе адыграна „Чорт і Баба" і „На папасе".

Літэратурная сэкцыя паўстала нядаўна і ўжо ладзіла ў першы раз 6.V. Ѣ. г. рэфэрат на тэму „Гісторыя беларускага руху", прачытаў старшыня. Затым адбыўся літэратурны вечар, на якім прачытаў свае творы тутэйшы сябра Юльян Сэргіевіч і адыграна была яго-ж камэдыя ў 2-х актах „Вітшаваньне".

Пры аддзеле ёсьць бібліятэка і чытэльня. Лік сяброў даходзіць да 39. Вельмі цяжкія матэрыяльныя варункі. Але пачатая праца не стане, а будзе ісьці далей па цярноваму шляху.

*Прэзыдыум Аддзелу*
*Бел. Т-ва „Прасьвета"*
*ім. Я. Купалы.*

## Праца „Прасьветы".

(Кухчыцы, Нясьвіскага пав.).

Хочацца шмат чаго сказаць аб сваей вёсцы. Узяўшы газэту ў рукі, часта ўбачыш, што чужыя вёскі праводзяць сваю родную культуру, стаўляючы спэктаклі і робячы розныя таварыскія забаўкі. Наша-ж вёска маўчала. Чаму? Ці-ж няма сілы, ці няма людзей, якія-б кіравалі гэтай працай.

Дык не! Ёсьць і людзі, ёсьць і сілы. Аб гэтым можа сьведчыць такі факт, як адыграньне гэткай цяжкай драмы, як „Апошняе спатканьне", Галубка. Некаторыя з артыстаў мелі на'т па дзьве ролі, а гэта для вясковай моладзі ёсьць вадта трудным дзеля таго, што мала адукавана і не знаёмая з пастаноўкай. Але пры добрай стараннасьці старшыні гуртка „Прасьветы" А. Мікірэя і сябры Янкі Конана, адыгралі надта добра. Можна на'т сьмела сказаць, што ляпей як у мінуўшым годзе ў Клецку.

Вёска наша маўчала дзеля таго, што шмат было перашкод, ад сваіх-жа нясьведамых хлапцоў, як асоба П. Лобко, які надта востра выступаў проці Т-ва „Прасьветы" даводзячы, што гэта арганізацыя ёсьць шкодная для беларусоў і беларускай асьветы і гаворачы, што мы не беларусы, дый нічога беларускага ня маем. Аднак гэты пан не перакакаў сябраў „Прасьве-

---

тага Унівэрсытэту, пад аналёгічным загалоўкам, — выяўляе сапраўдны воблік гэтае „беларускае" установы, у якой — адзначым тут мімаходам — 66% з лішкам, або інакш кажучы 2/3 агульнага ліку студэнтаў ёсьць жыды! Вось красамоўны адрывак гэтага цікавага артыкулу:

„Кожны, хто прачытае гэтыя вучоныя, унівэрсытэцкія запіскі („Труды Белорускаго Государственнаго Университета"), прываблены і заінтрыгаваны іх галоўным назовам,—будзе глыбока разачараваны: *нідзе, ні ў адным артыкуле ён ня знойдзе тэмы, якая хоць чым-небудзь зачапіла-б Беларусь..* Затое мы сустракаем такія артыкулы, як „Феодализм в древнем Израиле; „Стихотворения Гейне в переводе Тютчева", або з гісторыі „западно-русскаго края" — артыкул: „Уніятскія школы для западно-русскаго юношества, братской церковной уніи (1596)".

Зачыняюць нумар: „*Балючая справа*" — артыкул Г. Вялецкага, прысьвячаны справе арганізацыі Беларускага Сакольства ў Краі і „Хроніка" беларускага студэнскага жыцьця.

Канчаючы гэтым агляд № 2-га „Студэнскае Думкі", дазволім тут сабе прывесьці яшчэ пару адрыўкаў з поўнага здаровага патрыятызму артыкулу грам. Вялецкага п. н. „Балючая справа".

„Сумны выгляд маюць сучасныя гоні беларускае культуры: варожыя адносіны паміж паасобнымі партыямі павялічываюцца штодзень, і многія з сяброў розных палітычных кірункаў, здаецца,усялякімі спосабамі маняцца дасягнуць свае мэты: зьніштожыць сваіх палітычных праціўнікаў, забываючы пры гэтым, што і яны — нішто іншае, як браты іхнія, сыны таго самага працоўнага, сялянскага, абяздоленага Беларускага Народу... Дзеля гэтае варожасьці розных беларускіх кірункаў нажаль вельмі мала зварачваецца ўвагі на культурныя патрэбы беларускага грамадзянства, на тыя арганізацыі, якія былі-б пазбаўленымі ўсялякае палітычнае ахварбоўкі. А я веру,—кажа п. Вялецкі,—што гэта ўсё ў нас яшчэ магчыма, што ўсе варожыя да сябе палітычныя кірункі знойдуць супольную мову, калі ходзіць аб дабро сваей Айчыны". Хочам верыць у гэта і мы, а тымчасам, чакаючы чарговага нумару, кажам: „*Vivat sequens*!"

**Язэп Сьветазар.**

ты“. Яны як і раней ідуць сваім беларускім шляхам змаганьня за свае правы, культуру і асьвету. Нарэшце кінуў усё і сам пайшоў разам з сябрамі „Прасьветы“. Але яго ня прынялі і ён апынуўся ў пропасьці. Гэтак і трэба.

Ганіця вон гэтакіх здраднікаў беларускай справы. Няма ім мейсца сярод тых людзей, якія змагаюцца за свае правы! Бо чалавека, які ўжо прыбраў сабе пэўны кірунак, дык надта трудна направіць. „Як воўка ні кармі, ён усё ў лес глядзіць“.

Кухчыцы, 7.V·28. *Сябра.*

## Як у нас дамагаліся беларускае школы?

(В-ка Гулі, Пастаўскага павету).

Вёска наша досыць вялікая, дзеля таго школа тут ніколі не зводзілася. Яшчэ за часаў царызму сяляне нашы добра маскалізаваліся праз расейскіх настаўнікаў. Пасьля вайны ў нас адчынілася школа польская. Спачатку свайго існаваньня школа наша стаяла на належным пазёме. Настаўнікам быў сын тутэйшага пана Сурвіла Юрка, чалавек з адпаведнымі кваліфікацыямі і сумленна выконваючы абавязкі настаўніка. Гэткім чынам нашы сяляне пагадзіліся з тэй сытуацыяй, што трэба маладым дзецям ламаць язык над чужою мовай. Але на добрае і канец хуткі. Сурвілу замянілі нам нейкай польскай вучыцелькай Мар'яй Наўроцкай. Бог яе ведае, за якія заслугі яна атрымала пасаду вучыцялькі, гэта ведама толькі ёй самой, а запраўды яна ніякіх вучыцяльскіх кваліфікацыяў ня мела і ня мае. Але ведама, для вясковага вучэньня вялікіх кваліфікацыяў ніколі не патрэбна. Умець толькі чытаць ды пісаць, ды яшчэ да сотні лічыць, дык гэта ўпаўне хапае. Але нажаль наша вучыцелька і гэтага ня знала.

Аднойчы селянін В. запытаўся, сколькі грошы я павінен атрымаць за 13 яек, лічачы па 11 грошы за кожнае, калі вязучы на кірмаш, 2 яйкі пабіў і прадаў за паўцаны. Над гэтай задачай цэлы вечар прасядзела наша вучыцелька і, сьпісаўшы цэлы аркуш паперы, сказала, што я такіх задач ніколі не рабіла. З гэтага бачым ясна, якія кваліфікацыі мела наша пані. Замест навукі, з вучнямі з сапомы вырабляла цацкі, а па лекцыях з вясковымі бабамі часта выступала на языковую дуэль.

Нашыя сяляне, бачучы, што дзеці дарма марнуюць час, пастанавілі направіць як небудзь такія парадкі, якія запанавалі ў школе. На шчасьце, якраз у тым часе, беларускі адраджэнскі рух скалыхнуў грудзі лепшых сыноў вёскі. Яны адчынілі заспалыя вочы нашага селяніна і давялі яму, што першай патрэбай кожнага народу павінна быць свая школа. І запраўды, некаторыя з сялян пільна падтрымалі гэтую справу. Пачалася ўпартая барацьба за родную школу. Перашкоды сустракалі на кожным кроку. Пад уплывам вучыцялькі каталікі зусім адмовіліся падпісываць дэкларацыі, лічачы сябе палякамі. Войт гміны таксама не хацеў падпісываць дэкларацыяў, аж пакуль яму не прыказалі аж з міністэрства. Але дось таго, калі было жаданьне роднай школы ў нашых сялян, дык ніякія перашкоды нам не загарадзілі той шлях, якім можна здабыць родную школу. Толькі яшчэ нашы сяляне не зусім кончылі гэтага за родную школу ўдачна. Бо ў беларускую школу нам ізноў далі тую самую Мар'ю Наўроцкую за вучыцельку, якая ня ўмее нават гаварыць пабеларуску, ня кажучы аб чытаньні або пісаньні. Ну, але на пачатак і таго досыць. Трудна здабыць усё адразу. Мы пэўныя, што перамога астанецца за намі. Спачатку здабылі назоў беларускае школы, а пасьля здабудзем і настаўніка. Дзеля гэтага не маем што наракаць на ўрад, што не спаўняе нашы вымаганьні; калі мы паступаем у нашых дамаганьнях справядлівым шляхам і не запужаюць нас ніякія няўдачы на нашым шляху, то мы заўсёды здабудзем тое, што нам належыцца. Хаця, праўда, трудна здабыць усё адразу, але ня дарма мусіць кажа прыказка: Калі знайшоў канец ніткі, то дойдзем і да клубка. Гэта самае трэба рабіць нашаму сялянству, трэба датуль ісьці з дамаганьнямі ўперад, пакуль не дасягнем нашае мэты. *Сьвядомы.*

## Чужая школа калечыць нашых дзяцей.

(Наваградчына).

Шпарка нясецца цягнік... У вагоне робіцца душна і седзячы ціханька, хочацца спаць... Аднак мэта блізкая—за $1^1/_2$ гадзіны я буду ў Наваградку.

Апрача мяне ў вагоне былі: адна спаралізаваная дзяўчына, студэнт У. С. Б. у Вільні, дзьве вучыцелькі і адзін вучыцель. Між вучыцелькамі йшла гарачая гутарка. Адна, відаць з Галіцыі, наракала, што тут на Крэсах жыць немагчыма, бо няма ані „таварыства“, ніякай культуры і цывілізацыі, што ўсе сяляне да яе адносяцца па „hromadowsku“—нічога не прадаюць, ня хочуць пасылаць сваіх дзяцей у школу, дамагаюцца нейкай беларускай школы і інш.

Я ўмяшаўся ў іхнюю гутарку і даведаўся, што другая вучыцелька паходзіць з сям'і засьцянковага беларускага селяніна з Наваградзкага павету. Адукацыю атрымала расейскую, а вучыцельскія кваліфікацыі атрымала, скончыўшы польскія вучыцельскія курсы.

Мае пасаду ў аднэй вёсцы каля станцыі Нёман і цяпер едзе на сьвяты дамоў. Ня гледзячы на тое, што ў доме ўсе гавораць пабеларуску, яна вельмі ненавідзіць гэтую „мужыцкую“ мову.

На маё запытаньне, ці ёсьць у яе школе ўведзена беларуская мова, яна адказала: „Покуль я маю пасаду, покуль я маю сілу і агульнае паважаньне ў інспэктараце, ніхто ня прымусіць мяне выкладаць у маей школе гэты „chamski język“.

Я больш ня мог з ёю гаварыць—мне зрабілася моташна і душна ад слоў жанчыны-беларускі, якая ўзгадоўвалася пад уплывам чужых культур. У маю галаву нехаця лезьлі дум-

кі і паўставалі пытаньні, на якія я не знаходзіў адказу: чаму беларусы (на жаль такіх ёсьць шмат) саромяцца сваей мовы, нацыянальнасьці? Чаму столькі сыноў Беларусі ёсьць яшчэ нясьведамых? Чаму яны, асьлепленыя чужацкаю культурай, лезуць да яе—як мухі да мёду?

І міма волі насоўвалася параўнаньне беларусаў з іншымі адраджаючыміся народамі, як літоўцамі, украінцамі і інш., дзе чалавек сьмела і адкрыта прызнаецца да сваей нацыянальнасьці, любіць і шануе сваю бацькаўскую мову?

І ўспаміналася мне барацьба беларусаў за родную беларускую школу і тое значэньне, якое прыдавалі гэтай барацьбе.

*А. Сьведамы.*

## Аб усім пакрыху.

(В-ка Малкі, Браслаўскага пав.).

У нас тут пануе духовая цемра. Сяляне, заместа таго, каб заняцца культурнаю працаю, сабіраюцца ў якой-небудзь хаце і праігрываюць у карты апошнія свае грошы. А затым, праіграўшыся, пушчаюцца на ўсялякія злачынствы, наракаючы на сваю нядолю.

Але сустракаюцца людзі і з добрымі думкамі і намерамі. Пачынаюць гутарыць аб тым, што трэба залажыць аддзел Т-ва „Прасьветы" і выпісаць беларускія газэты, каб праз іх даведацца, што дзеецца на сьвеце. Моладзь праяўляе зацікаўленасьць беларускім рухам. Нават дзяўчаты захопляны гэтым рухам. Калі ім пападзе беларуская газэта ў рукі, дык зьбіраюцца ў адну хату і чытаюць для старэйшых. Усе вельмі прыхільна аднясьліся да газэты „Грамадзянін", заклікаючай да культурнае працы і спыненьня ў газэтах непатрэбнае ўзаемнае лаянкі.

*Сялянін.*

## Вось дык парадкі!

(Вялейскі павет).

Калі трапляюцца работы па адбудове шляхоў у Ужы, дык Гмінная Рада прысылае людзей з вёсак, якія ляжаць за 10-15 вёрст. А калі работы ёсьць ў тых вёсках, дых высылаюць людзей з Ужы, і пакуль тыя прыдуць, дык і вечар ўжо падходзіць.

Дык калі-ж тутака працаваць! Вось дык парадкі?! —

*Вялейскі.*

# Ні Богу сьвечка, ні чорту качарга.

Быў летні вечар' Парна, ціха...
Запаў мне ў сэрца сум і жаль...
Грызьці якоясь стала ліха
І гоніць ў даль, кудысьці ўдаль...

Пайшоў, куды панесьлі вочы..
Каб растрасьці тугу і сум...
І так блукаўся да паўночы
Казаў той: проста наабум...

Хто вёў, ці проста незнарокам
У сьценку дзесь уперся я.
Збудзіўся быццам. Кінуў вокам:
Старая то была царква.

У бажніцы дзьверы мімаволі
Я ткнуўся, хочучы ўвайсьці.
Мо' тут знайду прыпынак болю,
Устане сум мяне грызьці?.'.

Аж раптам голас, быццам з неба
Сурова, грозна мне дзяўбе:
— Куды ты прэш? чаго тут трэба?
Няма тут месца для цябе!

Царквы ты вораг. Закон веры
Ты не шануеш, бы быдлё.
Такім закрыты раю дзьверы!
Проч! нячыстага зяльлё!..

Панурыў голаў... адыйшоў я...
Што-ж: узапраўды можа так?
Мо' па нябеснаму закону
Не чэлавек я, а быдляк?...

Пайшоў далей ізноў бяз мэты,
З цяжарам большым у грудзёх...
Ах! дзець куды цяжар мне гэты?...
Аж раптам бачу: нейкі лог.

Ага! то-ж лог, што мае славу
Што чорт заўсёды тут гасьціць.
Калі нельга у рай па праву,
Мо' у пекле месца папрасіць?

І вось пачаў у цёмры ночы
Гукаць я дзьябла, каб памог.
Зарагатаў ён мне у вочы:
- Ты што-ж ка мне? А дзе-ж твой Бог?

Цябе хрысьцілі, ты маліўся,
Сумленьне, сэрца меў і чэсьць.
Ты хрысьціянінам лічыўся,
Чаго-ж цяперка ка мне лезьць?

Папасьць у пекла не старайся!
Ты мне ня люб, ня мой слуга!
Ідзі, і тут лепш не бадзяйся
І хай грызе цябе туга!

. . . . . . . . . . . . . . .

О доля мая, доля злая!
І тут і там-ўсё няўдача!
Запёрты дзьверы пекла й рая...
Куды-ж мне дзецца? Вось задача!

Напрасна толькі я мыкаўся!
Ні ў рай, ні у пекла-мне нельга..'
Ні Богу сьвечка аказаўся,
Ані для чорта качарга!...

*Бэдэ.*

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Палепшаньне дрэннай азіміны ў вясну.

Мала калі азіміна добра перазімуе і ўзойдзе добра ўвясну. Звычайна адну зьнішчаць марозы, другая выпрэя пад сьнегам, а трэцяя на нягноеным і вырадзіўшым полі ўсходзіць слаба і рэдка. У кожным з гэтых трох выпадкаў можна памагчы азіміні вясновым угнаеньнем на ліесьця і гэткім чынам палепшыць рост і разьвіцьце.

Для палепшаньня азіміны ўвясну можна ўжываць гнаі звычаныя ці штучныя. З звычайных гнаёў найлепш надаецца гной дамовай птушыны, які трэба вельмі рэдка растрасьці па азіміне. Гэта самы лепшы і самы мацнейшы з усіх гнаёў. Затым можна ўжываць для ўзмацненьня слабай азіміны гнаёўку. Але зусім зразумела, што яе можна ўжываць толькі на палёх ня вельмі далёка адлеглых ад гаспадаркі. Толькі яе трэба рэдка разьліць па азімаму, найлепш у пасмурны дзень ці пад дождж.

Але гною з пад дамовай птушыны ці гнаёўкі ня хопіць на тое, каб палепшыць усю азіміну. Дык гаспадар павінен забясьпечыць сябе спамагацельнымі гноямі. З іх заслугоўваюць на ўвагу тры: чылійская салетра, хоржаўская салетра „Нітрафос" і, усім добра ведамы, азотняк.

Чылійскай салетры на морг патрэбна поў-цэнтнара (цэнтнар каштуе 65 зл.). Але і чвэрць цэнтнара салетры, разсеянай на морг азіміны, зробіць вялікую рожніцу. Яе трэба разсеяць у сталую пагоду, калі расьліна ўжо прабудзілася да жыцьця. Найлепш разсеяць у двух частках: першую — калі азіміна прачхнецца да жыцьця і другую частку — крыху пазьней. Разсеяную салетру ня трэба баранаваць, бо яна сама распускаецца на расе і ўсасваецца ў зямлю.

„Нітрафос" мае гэтулькі-ж азоту, як і салетра і акрамя гэтага мае толькі фосфарнага квасу, як найтаньшы род тамасіну ці супэрфасфату. Праўда, і азот і фосфарны квас расьліны ўбіраюць у сябе трудней, чым з салетры, супэрфасфату ці тамасіны. Цана гэтага новага гною складае каля 45 зл. за цэнтнар.

Азоту патрэбна на морг азіміны паўцэнтнара, ці прынамся 25 кіляграмаў. Яго найлепей разсеваць у пачатку вясны, як толькі падсохла зямля і азіміна яшчэ ня прачхнулася. Яго трэба засеяць увесь адразу і бараною зьмяшаць з зямлёю. Цана азоту такая-ж, як і нітрафосу, з тэю рожніцаю, што ён ня мае ў сабе фосфарнага квасу, але затое мае каля 5% больш азоту, чым нітрафос.

## Чым падсяваць вясною канюшыну.

Часта бывае, што канюшына або люцэрна ўсходзіць пасьля зімы вельмі рэдка. Іх зьнішчылі ці мышы ўвосяні, ці рожныя хваробы (плесянь), што разьвіваецца на карэньнях гэтых расьлін. Ад гэтага канюшына гіне цэлымі лапінамі.

Усе парожныя мейсцы, незарослыя канюшынаю ці люцэрнаю, трэба засеяць такімі расьлінамі, што буйна разьвіваюцца і хутка запаўняюць парожныя мейсцы. Бо, калі заставіць парадзеўшую канюшыну непадсеянаю, дык усе гэтыя мейсцы займе бур'ян, які ня толькі дае горшую пашу, але яшчэ зьнішчыць і поле.

Для падсяваньня парадзеўшай канюшыны найлепш надаецца інкарнатка, род аднагадовай канюшыны аднагадовы галяндзкі райграс, які называецца вэстэрвольдзкім райграсам. Яны сеюцца раньняю вясною на пустых мейсцах і прыкрываюцца зямлёю, калі скародзіцца ўся канюшына.

Каб мышы ня нішчылі канюшыны, трэба яе засеваць разам з насеньнем траваў, гэтак званых канюшынатраўных мешанак. Паша з такіх мешанак вельмі карысна для статку. Яе больш зьбіраецца, чым самай канюшыны. У зялёным стане ею ляпей карміць статак, бо ад яе няўздуваецца, як ад канюшыны і самае галоўнае —гэтакую мешанку траваў і канюшыны менш пішчаць мышы ўвосені і меншая небясьпека выміраньня або зьнікненьня канюшыны ад якіх-небудзь іншых прычынаў. Бо калі канюшына ў гэты год горш расьце, дык тады ляпей разьвіваецца трава і наадварот: калі канюшына гусьцей расьце, дык для травы ўмовы горшыя і верх возьме канюшына. Найлепей канюшыну сеяць з італьянскім райграсам і цімафейкаю.

---

### Пазычковая запамога для земляробаў.

Міністэрства Ральніцтва пастанавіла у хуткім часе распачаць пазычковую запамогу для земляробаў. Адпаведныя сумы будуць перададзены Ральным Банкам і Банкам Краёвага Гаспадарства.

### Крэдыты штучнымі гнаямі.

Дзяржаўны Ральны Банк у Вільні пачаў выдаваць праз ральнічыя арганізацыі малазямельным земляробам Віленшчыны супэрфосфаты і азотавыя штучныя гнаі.

### Новыя малочныя каапэратывы.

У мінуўшым месяцы пры падтрыманьні павятовых соймікаў паўсталі ў Віленскім і Навагрудзкім ваяводзтвах 8 новых малочных каапэратываў. У Пастаўскім павеце — 2 каапэратывы, Молодэчанскім 1 і Дзісьненскім 3.

### Стан пасеваў.

З усіх амаль мейсц нашага Краю прыходзяць весткі аб дрэнным стане азімых пасеваў у зьвязку з позьняю і сьцюдзёнаю вясною. З Молчадзі Баранавіцкага павету паведамляюць, што азімае жыта згінула каля 70 проц. гэтак сама значна пацярпела ад марозу і чырвоная канюшына. У Слонімскім павеце згінула ад 40 проц. - да 60 проц. у залежнасьці ад мейсц.

Трэба як мага хутчэй склікаць камісіі пры павятовых аддзелах з мэтаю акрэсьленьня стратаў і чыненьня захадаў аб падатковых палёгках. Гмінныя бюджэты на бягучы год хаця і паваліччаны, у некаторых мейсцах на 100 проц. але аказваюцца зусім нерэальнымі у віду небясьпекі няўраджаю. Патрэбна дзяржаўная запамога.

## Навука і тэхніка.

### Радыё-апарат Эдысона.

Вядомы амэрыканскі вынаходца Томас Эдысон цяпер заняты канструкцыяй апарату, які адначасна передае як сьветавыя, так і гукавыя хвалі. Нядаўна Эдысон перад невялікай колькасьцю запрошаных спэцыялістых прадэманстраваў свой апарат. У яго ляборатоыі перадаваліся з Нью-Іорскай опэры як музыка, гэтак і малюнак таго, што рабілася на сцэне. Пры чым сцэна была відаць у люстэрку, пастаўленым побач з радыё-апаратам.

Цяпер Эдысон працуе над некаторым удасканаленьнем свайго апарату, а галоўнае,—каб зрабіць яго больш танным.

Мяркуецца, што праз некалькі месяцаў такія апараты будуць выпушчаны ў прадажу.

### Газэта на хмарах.

Як ведама, рэкляма мае вельмі вялікае значэньне ў гандлю і прамысловасьці. У гэтай галіне на першым месцы стаіць Амэрыка. Сьветавая рэкляма вялікіх амэрыканскіх горадоў у апошнія часы дасягнула галаваломнага рэкорду. Гіганцкія літары і арнаманты малююцца проста на начным небе, але не з дапамогаю аэрапляноў, а непасрэдным праектаваньнем ды а пазытываў на хмары.

Праэкцыйны апарат дзеля гэтай мэты завёцца „сьветавой гарматай". У папярэчніку дула гэтай „гарматы" мае паўмэтра, даўжыня— два мэтры. Экранам зьяўляюцца хмары, якія могуць быць на 7 кілёмэтраў ад аб'ектыву. Нябесная рэкляма пераліваецца рознымі колерамі, дзякуючы каляровым фільтрам.

Але значэньне гэтага апарату не абмяжоўваецца аднэй толькі рэклямай. Усе палітычныя і іншыя навіны дня можна ў некалькі сэкунд падаць да ведама усяго аграмаднага гораду і яго ваколіць праз „нябесную газэту". У выпадку адсутнасьці хмары, аэрапляя можа зрабіць „экран", выпусьціўшы штучную дымавую заслону.

## Кутох жартаў і сьмеху.

### Абое шкадуюць.

— Ці ня мог-бы папрасіць пані аб спатканьні?
— Шкода, бо я замужняя.
— Я гэтак сама жанаты і так-жа шкадую.

### У Судзе.

— Ці можаш сярод украдзеных рэчаў распазнаць свае ўласныя?
— Гэта хустачка для носа, пане судзьдзя.
— Гэта нічога яшчэ ня даводзіць, бо я сам маю гэткую.
— Уласьне,у мяне ўкрадзены былі дзьве.

## Юрыдычныя парады.

**Грам Т. Г—бу.** Запытаньне: У 1924 г. бацька мой запрадаў сваю зямлю суседу. Была зроблена запрадажная ў натаруса. Купчую меліся зрабіць праз год, але не зрабілі, бо купіўшы ня меў усіх грошаў, і бацька згадзіўся пачакаць. Зямлёй аднак пачаў карыстацца сусед. У мінуўшым годзе бацька памёр. Сусед мне адзінаму насьледніку зямлі не аддае а таксама ня плоце і наследных яшчэ ад яго грошай. Я зусім не хачу прадаваць бацькаўшчыну Што і як і ці можна зрабіць?

Адказ: Запрадажная хоць-бы і натарыяльная, ніякіх правоў на зямлю не дае. Закон нават забараняе карыстаньне зямлёй па запрадажнай. Кожны з падпісаўшых запрадажную можа ад яе адступіцца. Пэўне-ж п.вінен тады панесьці пэўную кару на карысьць другога. Звычайна, калі адмаўляецца прадавец — дык мусіць зьвярнуць купіўшаму падвойны задатак, а калі купіўшы — дык задатак застаецца на карысьць прадаўца. Вы, як насьледнік, канешна можыця адмовіцца ад выданьня купчай і зламіць запрадажную тым балей, што купіўшы не даплаціў і не даплачвае грошы. Калі ў запрадажнай выразна сказана, калі грошы павінны быць заплочаны і на гэты тэрмін ня ўнесяны, вы вольны ад звароту задатку. Зьвярнецеся ў суд (калі вартасьць зямлі больш 1000 зл.-Акружны) і прасеце уняважніць запрадажную, адабраць зямлю і перадаць яе вам.

## Паштовая скрынка.

Р. Скрынніку з Нясьвіжскага пав. Пробны нумар высылаем, але чакаем на падпіску.

В. Станевічу з Палачан. Падпіску атрымалі — газэту высылаем.

Кнігарня „Ruch" у Стоўбцах — 12 экзэмп. высылаем.

В. Б. — павету Вялейскага. Некатарыя карэспандэнцыі пойдуць.

М. Чанулёнак. Карэспанцэнцыя пойдзе.

Асіповічу, — з Румянцэва. Карэспандэнцыя пойдзе. Грым выслалі.

І. Семашкевічу — Карэспандэнцыя атрымала і будзе зьмешчана ў наступным нумару. Прысылайце што-небудзь з жыцьця Гміннай Рады і Сойміку.

П. Бурай з Кракова — ліст Ваш атрымалі. Што можам зрабіць — пастараемся. Мужу на Лукішкі пасылкі пасылаем.

Прага-Чэская — Radlicka 50/, — „Вестнік" у абмен атрымалі. „Грамадзяніна" і „Бел. Раднага" высылаем. Старшыне Горадненскага гуртка „Прасьветы" на прасімыя адрэсы газэту высылаем



Адказны Рэдактар—Выдавец Тодар Вернікоўскі

Белар. Друк. Ім. Фр. Скарыны. Вільня.